


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

27 красавіка 2001 года
№ 17 (314)
Выходзіць па пятніцах

TV плюс

## Навіны рэгіёна

### Мірон у Радашковічах

**МАЛАДЗЕЧНА**. У ноч на 23 красавіка на 40-метровым коміне кацельні ў Радашковічах з'явіўся бела-чырвона-белы сцяг. На ім былі жалобныя чорныя стужкі.

У першай палове дня сцяг мог убачыць любы жадаючы мястачковец. Толькі пад абед улады, нарэшце, змаглі зняць яго.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Два «чарнобыльскія» мітынгі




Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**Маладзечна, гарадскі парк, серада.**

**МАЛАДЗЕЧНА**. У сераду ў гарпарку прайшоў мітынг памяці ахвяраў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Арганізатары яе называюць сябе каардынацыйнай радай дэмакратычных сіл.

Прыехаў у горад член-карэспандэнт Акадэміі Навук Беларусі прафесар **Іван Нікітчанка**. Сабралася чалавек 250–300. Мітынг доўжыўся гадзіну і завяршыўся без "прыгод".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

### Сям'і вярнулі правы на дзяцей

**МЯДЗЕЛ**. Тут адбылася досыць рэдкая падзея: сям'ю аднавілі ў бацькоўскіх правах.

У 1998 годзе сям'я Самарокавых з вёскі Памошша (Сырмежскі сельсавет) рашэннем адпаведных органаў пазбавілася бацькоўскіх правоў у дачыненні да ажно 8 дзяцей. Праз 3 гады ў сувязі з тым, што **Сяргей** і **Тарэса Самарокавы** змянілі свае паводзіны, добра сябе зарэкамендавалі, іх аднавілі ў правах.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Адкрылася пякарня

**СМАРГОНЬ**. У Солах адкрыўся філіял Смаргонскага райспажывтаварыства. У памяшканні сталовай цяпер пякуць хлеб. Мясцовую пякарню калісьці закрылі. Цяпер хлеб і кандытарскія вырабы 10 найменняў разыходзяцца ў Солах і суседніх вёсках. Пякуць хлеб дзве мясцовыя жыхаркі **Вера Семяновіч** і **Анжэла Сташкевіч**.

**Павел МАКЛЮК.**

### Прэміі за 100 кг макулатуры

**ВАЛОЖЫН**. 8 школьнікаў раёна сабралі больш за 300 кілаграмаў макулатуры. За што і атрымалі па 3 "мінімалкі" прэміі. УП "Каапнарыхтпрам" падвяло вынікі раённага конкурсу. Акрамя таго, што прадпрыемства аплачвае кошт сабранай сыравіны, яно выдзеліла прэміі. Другую і трэцюю прэміі за 200 і 100 кілаграмаў макулатуры атрымалі яшчэ 15 вучняў.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Аб пераносе рабочых дзён

У адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, перанесены рабочы дзень **з панядзелка, 30 красавіка, на суботу, 28 красавіка.**

## Надвор'е на выхадныя

Субота, 28 красавіка

**Мінск**
7 – 9°С (уначы)
17 – 20°С (удзень)



**Вільня**
2°С (уначы)
16°С (удзень)



Нядзеля, 29 красавіка

**Мінск**
5 – 8°С (уначы)
17 – 20°С (удзень)



**Вільня**
2°С (уначы)
19°С (удзень)



# Атамны міні-рэактар рэгіёна

**ВІЛЕЙКА. На мяжы Вілейшчыны і Мядзельшчыны ёсць вёска Заазер'е. З-за радыяцыйнай забруджанасці жыхары гэтай вёскі (адзінай у Мінскай вобласці) маюць права на перасяленне.**

Заазерцы лічаць, што 15 год таму пасля чарнобыльскай аварыі радыяцыйнае воблака прайшло якраз над вёскай. Старэйшыя сцвярджаюць, што ў той дзень быў дождж з пенай. Такая з'ява паўтараецца штогод, што дае падставу меркаваць пра звычайную пыльцу кветак, а не «радыяцыю». Але абследаванне вёскі паказвае забруджанасць.

Дзіўна, але суседнія вёскі лічацца «чыстымі». А ў Заазер'і ў людзей, якія нават летась папросту загаралі, урачы затым выяўлялі радыяцыйнае апраменьванне.

За 15 год да радыяцыі тут прывыклі. Ды і сама вёска, на першы погляд, нічым не адрозніваецца ад навакольных. Самая звычайная. Паціху вымірае. Ёсць тут нежылыя напаўразбураныя дамы. Асноўная частка жыхароў – пенсіянеры. На выхадныя сюды прыязджаюць на пабыўку сваякі. Дзеці і ўнукі. Займаюцца агародамі, хатнімі справамі.

Штогод у Заазер'е завітваюць спецыялісты, правяраюць прадукцыю на ўтрыманне радыенуклідаў. Толькі малако, бывала, зашкалівала. «Традыцыйна» маюць тут павышанае ўтрыманне радыенуклідаў журавіны. Мясцовыя іх і не бяруць. А вось грыбоў ды ягад багата. Вазілі дары лесу ў Літву і Польшчу, Маскву. Зароблена хапала, каб абуць-апрануць усю сям'ю.

Ніякіх папераджальных шыльдаў – «Уезд забаронены» ці «Радыяцыя», прыкладам – ля вёскі няма. Садзяць вяскоўцы бульбу і не ведаюць, забруджаная яна будзе ці не. І ці бяспечна сюды везці дзяцей. Хаця вязуць.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА

**Вёска Заазер'е, 23 красавіка. Кірыл Іконнікаў спакойна падмятае ганак.**

Пару год пасля аварыі плацілі так званыя «гробовые» – чарнобыльскія даплаты. У магазін завозілі дэфіцытныя прадукты. Цяпер няма тых «гробовых» – няма і радыяцыі?

Апошнія гады ў Заазер'е прылятаюць птушкі. Доўгі час пасля аварыі ў Чарнобылі было ціха-ціха.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Экспрэс-апытанне жыхароў Заазер'я, што на Вілейшчыне

# Як вы праведзяце 1 мая?



**Сяргей Жыхар, вадзіцель аўтапагрузчыка:**

– Будзем бульбу садзіць, апрацоўваць свой участак.



**Юрый Бардыньш, трактарыст:**

– 1 мая буду працаваць у полі. Для нас у гэты час свята няма, працуем без выхадных.

**Заканчэнне на 2-й стар.**

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# З-пад Краснага

Гэтая фатаграфія, хутчэй за ўсё, паходзіць з-пад Краснага. Захоўваецца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі. На адвароце даволі добра чытаецца тэкст, напісаны алавіком. Толькі вось дакладна зразумець, хто і ў якой сітуацыі сфатаграфаваны тут, цяжка: " На память Крымско пробывавшего Михаила Михайловича Маньковского 1911 года 20 июля месяца 30 дня холост. Состоял в центральной почтовой конторе. Сергей Маньковский".

Чалавек, які сапраўды любіў або мусіў вандраваць з торбай за плячыма басанож, відаць аддаў немалыя на той час грошы, каб займець фатаграфію і даслаць камусьці на памяць аб сабе. Фатаграфія зробленая або ў просценькай студыі, пра што можа гаварыць "антычны фон", або вандроўным фатографам, які ездзіў ад мястэчка да мястэчка са сваім фотаапаратам, трыногай і дэкарацыямі.

**Мікола ГАЙДУК.**



Фота з фонду Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне.

**Экспрэс-апытанне жыхароў Заазер'я, што на Вілейшчыне**

# Як вы праведзяце 1 мая?

Пачатак на 1-й стар.



**Аляксандр Дзямко, салдат тэрміновай службы:**

– Я цяпер у кароткатэрміновым адпачынку. У гэты дзень паеду ў Вілейку, бо трэба адзначыцца ў ваенкамаце. Потым буду дапамагаць па гаспадарцы. А 3 мая зноў у часць.



**Алена Жыхар, школьніца:**

– Паеду да сваякоў у Барысаў. Сходзім у парк, дзе і паспрабуем культурна адпачыць. Працаваць у гэты дзень я не буду, для мяне гэта выхадны дзень.



**Таіса Крэчык, пенсіянерка:**

– Не будзе тут ніякага Мая, аднаго «Дня працы». Работа, работа і яшчэ раз работа. Самыя дзянькі надышлі для яе.

**Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

■ КОНКУРСЫ

## Конкурс піяністаў

**ВАЛОЖЫН. Прайшоў другі раённы конкурс піяністаў.**

13 чалавек з усіх музычных школ раёна (Валожынскай, Івянецкай, Ракаўскай і Вішнеўскай) выконвалі па 2 рознапланавыя творы. Перамагла валожынка **Вольга Таўгень**. Дыплом і прыз яна атрымае на бацькоўскім сходзе ў канцы навучальнага года.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Ад «Малінаўкі» і да Віктосевай крыніцы

**МЯДЗЕЛ. У аўторак канцэрт у гарадскім ДК далі Аляксандр Ціхановіч і Ядвіга Паплаўская.**

Празналі сталічныя артысты пра Віктосеву крыніцу. Заехалі, набралі ў ёй вады ў дарогу.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Кінатэатр «Радзіма»**

**Вялікая зала, красавік**

27 – 29 "**Прыгажун Джо**", ЗША, камедыя, прэм'ера 15-00, 19-00, 21-00

"**Фенікс**", ЗША, баявік 17–00

**Для дзяцей**

29 – "**Як Іванка-дурань за цудам хадзіў**" 13-00

■ МУЗЕІ

# Дырэктар музеем ганарыцца

**МЯДЗЕЛ. Штогод раённы музей Народнай славы наведваюць 6–7 тысяч чалавек, яшчэ некалькі тысяч знаёмяцца з яго экспанатамі на выстаўках, якія арганізуюцца на прадпрыемствах, у здраўніцах.**

Заснаваны музей у 1969 годзе, а праз год сюды прыйшла працаваць цяперашні дырэктар установы **Ніла Мацюшонак**. Пэўнае ўяўленне пра мядзельскі музей дадуць яе маналогі.



**Рэканструкцыя па чэрапе. Навукоўцы дакладна ўстанавілі, як выглядаў продак мядзельцаў – крывіч 55 год, які жыў у XI–XII стагоддзях.**

## Самы дарагі экспанат для дырэктара

– Цяжка і сказаць: кожны па-свойму дарагі. Але вось гэты найбольш закрануў нешта ў душы. Ладзілі экспазіцыю ваеннай залы, распрацоўвалі партызанскую зямлянку. І трэба яе напоўніць рэчамі тае пары, а ў нас і таго няма, і гэтага. Іду неяк па вуліцы, заклапочаная. Спыняецца машына, выходзіць чалавек, пытаецца, як знайсці музей. Разгаварыліся. Аказваецца, сын Аляксея Шаўчэнкі, камісара брыгады імя Варашылава, прывез у музей бацькава скуранае паліто, трафейнае радыё «Telefunken». Гаворыць, што бацька добрым словам згадваў пра мяне і наш музей. А калі быў ужо вельмі хворы, сказаў: «Сынок, калі мяне не стане, выканай маю просьбу: завязі гэтыя рэчы і перадай у мядзельскі музей». Тым і дарагія гэтыя рэчы, бо сын выканаў бацькоўскі запавет. І гэтыя экспанаты якраз нам да месца прыйшліся.

## Найцікавейшыя наведвальнікі

– Аднаго разу прыбягаюць музейныя наглядальнікі: «Ніла Мечыславаўна, хутчэй сюды, тут прыйшлі, невядома на якой мове размаўляюць».- Падыходжу, знаёмімся. Гэта госці з Канады, Іцка Рабіновіч з сям'ёй. Ён – буйны бізнесмен, досыць багаты чалавек. Прывез дзяцей, каб паказаць месца, дзе нарадзіўся, – Мядзел. Яны за акіян перабраліся ў пасляваенныя гады. Мястэчка на той час было разбуранае, вулачкі страшэнныя, з калдобінамі. Таму госці здзівіліся, што Мядзел вельмі папрыгажэў, што такі музей ёсць. Яны агледзелі кожны экспанат, і з такім гонарам бацька сынам пра родныя мясціны расказваў!

## Пра цікавасць да музея

– Не, цікавасць не зменшылася. Адно, што многія б хацелі прыехаць у музей, але не маюць магчымасці: цяжка з транспартам, цяжка з палівам. Калі праводзіш экскурсіі, адчуваеш, ці цікава. Людзі ўважліва слухаюць, з такім задавальненнем кажуць словы ўдзячнасці, што, нягледзячы на ўсе цяжкасці, адчуваеш, што музей нездарма існуе. Калектыў у нас адукаваны, радуюцца, калі які экспанат здабудзем. Лічым, што збіраем матэрыял на будучае і для будучага. Працуем на гісторыю.



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.

**У мядзельскім музее ёсць больш за сотню абразоў і іншых прадметаў царкоўнага ўжытку, палова з іх выстаўляецца. Бывала, што людзі перад абразамі нават плакалі.**

## Дырэктар ганарыцца музеем?

– Вельмі. Па–першае, сказваюцца тыя доўгія гады, што тут адпрацавала. Кожны экспанат прайшоў праз мае рукі, і пра кожны можна бясконца гаварыць. Па–другое, гэта маё прызванне. А музей прыгожы, цудоўны. Толькі што ў будучым будзем экспазіцыі рэканструяваць. Трэба перабудаваць залы, прысвечаныя пасляваенным гадам. Неабходна развіць тэму рэлігіі, расказаць пра гісторыю канфесій на Мядзельшчыне. Хочацца больш расказаць пра нашых вядомых землякоў: Максіма Танка, Васіля Шаранговіча і іншых. Экспанатаў на гэтую тэму ў нас шмат назапашана, а выстаўляецца невялікая частка.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ АНОНС

# Фестываль «Адна зямля» зменіць свае ўмовы?

**АШМЯНЫ. 24 чэрвеня ў гарпарку пройдзе трэці рэгіянальны фестываль-конкурс выканаўцаў эстраднай песні "Адна зямля". І, хутчэй за ўсё, сёлета ён пройдзе інакш.**

Спецыялісты з аддзела культуры рэкамендуюць увесці тры ўзроставыя групы (было дзве): 15–18 год, 19–23, 24–30. Дырэктар раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці **Алена Куст** тлумачыць гэта тым, што ранейшая група (15–22 гады) была занадта шырокая. Існуе разбежка ў галасавых дадзеных. У 15–16-гадовых падлеткаў голас яшчэ не ўсталяваны, у адрозненне ад больш дарослых. Ды і з досведу мінулых конкурсаў відаць, што падлеткі ў "розыгрышы" галоўных прызоў не ўдзельнічаюць.

З павелічэннем узроставых груп знізіцца колькасць удзельнікаў ад раёнаў у кожнай групе. Іх будзе 2 (было 3), хаця гэта не паўплывае на агульную дэлегацыю. Пры ўмове, што спаборнічаюць 6 раёнаў, за дзень журы праслухае 36 чалавек.

Сёлета ў фестывалі дэбютуе Астравецкі раён. Яшчэ будуць удзельнічаць Маладзечанскі, Вілейскі, Валожынскі, Смаргонскі раёны і гаспадары.

Новаўвядзенні пакуль не зацверджаныя. Да канца красавіка загадчыкі аддзелаў культуры раёнаў-удзельнікаў выкажуць свае меркаванні.

У пачатку мая пачне працаваць аргкамітэт. У кожнай узроставай групе будуць вызначаныя па 3 пераможцы. Будзе, натуральна, і ўладальнік Гран-пры фестывалю і лаўрэаты ў намінацыі "Глядацкія сімпатыі".

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ДНІ

29 красавіка – **Сусветны дзень пароднёных гарадоў.**

30 красавіка – **120 год з дня нараджэння Янкі Журбы** (сапр. І. Івашын; 1881–1964), беларускага паэта.

1 мая – **70 год з дня нараджэння** (1931) **А. Лойкі**, беларускага паэта, крытыка і літаратуразнаўцы.

**Свята працы.**

3 мая – **230 год з дня нараджэння Аўгуста Бекю** (1771–1824), беларускага ўрача.

■ ІМЯНІНЫ

**27 красавіка**

Праваслаўныя: **Антона, Астапа, Марціна.**

Каталіцкія: **Зіты, Тэафіла.**

**28 красавіка**

Праваслаўныя: **Анастасіі, Васілісы, Андрэя, Віктара.**

Каталіцкія: **Валерыі, Людвіка, Паўла, Пятра.**

**29 красавіка**

Праваслаўныя: **Васілісы, Галіны, Ірыны, Фядоры, Леаніда.**

Каталіцкія: **Багуслава, Пятра.**

**30 красавіка**

Праваслаўныя: **Андрыяна, Аляксандра, Засімы, Сямёна.**

Каталіцкія: **Катарыны, Марыяна.**

**1 мая**

**Свята Працы**

**2 мая**

Праваслаўныя: **Антона, Георгія, Нікіфара, Трыфана.**

Каталіцкія: **Анатоля, Апанаса.**

**3 мая**

Праваслаўныя: **Аляксандра, Анастасіі, Гаўрылы, Мікіты, Рыгора.**

Каталіцкія: **Антаніны, Марыі, Аляксандра, Філіпа, Якуба.**

# Хто peралічыць «бамжоў»?

**МАЛАДЗЕЧНА. "Бамжоў" ды "бічоў" людзі ў форме бачаць па-свойму. Нататкі гэтыя я зрабіў са слоў знаёмага ўчастковага, які прасіў не публікаваць сваё імя.**



Фота IREX/ProMedia.

**Ці не асноўныя пастаўшчыкі кардону ды паперы ў нарыхтоўчыя пункты – менавіта бічы і бамжы.**

### Бічы і бамжы: адрозненне

Існуюць дзве разнавіднасці людзей без пэўных заняткаў – бічы і бамжы. Яны адрозніваюцца тым, што першыя жывуць хітрасцю, а другія – чым давядзецца. Бічам ёсць дзе жыць, бамжам – не. Першыя маюць прапіску (часцей, у вёсках). Вядуць амаральны лад жыцця, бо не хочуць працаваць. Чалавек, які мае жаданне працаваць, бічаваць не будзе. Большасць – звычайныя алкашы. Жывуць у прытонах – кватэрах ці дамах без мэблі. Аднаму туды заходзіць не рэкамендую – дадуць у каршэнь.

Бамжы – камандзіровачны народ. Яны жывуць, у асноўным, у раз'ездах. У горадзе няма "сваіх" бамжоў, калі-нікалі могуць прыязджаць з іншых месцаў. Асабіста я ніводнага бамжа не затрымліваў.

### Пра месцы «работы» бічоў

Гэта – звалкі і кантэйнеры для смецця. Бічы шукаюць бутэлькі, паперу, рыззё, жалеза. Усё гэта здаюць у нарыхтоўчыя ларкі. Не грэбуюць дробнымі крадзяжамі, у асноўным, цягаюць курэй з бліжэйшых да Маладзечна вёсак.

### За што затрымліваюць?

Некаторыя сядзяць у магазінах, тым самым спрыяюць стварэнню там антысанітарных умоваў. Затрымаць жа тых, хто займаецца жабраваннем, практычна немагчыма.

Калі біч – алкаголік і яго стан дазваляе быць у лячэбна-працоўным прафілакторыі, яго туды і накіроўваюць. А калі цвярозы – за што затрымліваць? Проста выводзім з магазіна і ўсё.

Калі гэта бомж (у яго няма прапіскі і месца жыхарства), яго затрымліваюць, дастаўляюць у ГРАУС і вязуць у мінскі прыёмнік-размеркавальнік. Там бамжоў абследуюць, лечаць, наколькі магчыма, робяць санітарную апрацоўку іх адзення. Увогуле, гэтых людзей у размеркавальніку могуць трымаць да 30 сутак. Потым адпускаюць.

### Замест каментарыя

Не ўсе ўчастковыя былі такія гаваркія. Нехта сказаў, што ў яго на ўчастку няма кантэйнераў для смецця, іншы наогул нічога не захацеў гаварыць на гэтыя тэмы.

Адзін з міліцэйскіх начальнікаў на пытанне пра колькасць "падапечных" заўважыў:

– Бамжы жывуць сваім, толькі ім зразумелым, жыццём, а мы – сваім. Бамжы – гэта і ёсць бамжы. Хто іх там лічыць?

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 19 красавіка | 26 красавіка |
|---|---|---|
| Долар | 1320,00 руб. | 1323,00 руб. |
| Нямецкая марка | 594,69 руб. | 603,15 руб. |
| Літ | 330,08 руб. | 330,82 руб. |
| Расійскі рубель | 45,71 руб. | 45,78 руб. |
| Злоты | 326,61 руб. | 328,08 руб. |
| ЕЎРА | 1163,12 руб. | 1179,65 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1345 – 1360 руб. | 1350 – 1380 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 18.04 | 25.04 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1980 | 1980 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 6500 | 6500 |
| Сасіскі, 1 кг | 1880 | 2160 |
| Селядзец, 1 кг | 1520 | 1550 |
| Рыс, 1 кг | 490 | 530 |
| Грэчка, 1 кг | 450 | 470 |
| Цукар, 1 кг | 568 | 568 |
| Алей, 1 л | 690 | 720 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 750 | 750 |
| Маянэз, 200 г | 260 | 260 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | 1500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 450 | 450 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 380 | 380 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 220 | 230 |
| Капуста, 1 кг | 300 | 350 |
| Лімоны, 1 кг | 1350 | 1300 |
| Апельсіны, 1 кг | 1150 | 1100 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1000 | 900 |
| Масла, 1 кг | 2000 | 1800 |
| Тварог, 1 кг | 900 | 900 |
| Малако, 1,5 л | 400 | 400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 800 |
| Бульба, вялікае вядро | 600 | 700 |
| Морква, 1 кг | 400 | 350 |
| Яблыкі, 1 кг | 480 | 450 |
| Цыбуля зялёная, 1 пучок | | 200 |
| Радыс, 1 пучок | | 500 |
| Салата, 1 пучок | | 150 |
| Пятрушка, 1 пучок | | 150 |

■ ПАСЛЯ ПУБЛІКАЦЫІ

## Куды перанесці рынак

Пасля выступлення ў газеце старшыні прафсаюза прадпрымальнікаў Вілейкі **Мікалая Мелеца** аб праблемах рынка захацелася сказаць пару слоў і мне, жыхарцы Вілейкі з дваццацігадовым стажам. Я не магу пагадзіцца з выказваннем аўтара, што, калі рынак месціўся на галоўнай плошчы горада, гэта месца задавальняла ўсіх. Мяне, у прыватнасці, яно задавальняла не больш чым сённяшняе. Штодня на гарадскім пляцы панававаў, выбачайце, балаган. Цяпер балаган пераехаў у гарадскі парк, куды яшчэ не так даўно можна было прыйсці адпачыць.

Куды перанесці рынак? А чаму б не на тэрыторыю калгаснага? А калі там малавата будзе месца, незанятая ж яшчэ пляцоўка побач, паміж інтэрнатам вучылішча і вуліцай Першамайскай. Машыны б маглі прыткнуцца на вуліцы каля інтэрната і ўздоўж двара вучылішча. Адно, што там трэба зрабіць – засыпаць вечныя ямы.

Яшчэ адно месца можа быць для размяшчэння рынку – гарадскі стадыён. Няўжо ў Вілейкі настолькі багаты каляндар спартыўных мерапрымстваў, што нельга па перыметры яго ў астатнія дні расстаўляць палаткі? Ды і прыбіральня, здаецца, на стадыёне ёсць.

Адразу адкажу на рэакцыю прадпрымальнікаў: не бойцеся, людзі прывыкнуць да новага месца, як прывыклі да Ждановічаў, Малінаўкі і сотні іншых рынкаў на новых месцах. А рабіць рынак на зямельным участку, дзе цяпер месціцца былы дзіцячы садок побач з існуючым рынкам – гэта не лячэнне хваробы, а толькі адтэрміноўка дыягназу: хворы.

Прадпрымальнікам, сапраўды, і самім трэба паклапаціцца, каб абуладкаваць свае рабочыя месцы: адбудаваць прыбіральню, скінуцца на водаправод і іншае. На маю думку, сваё рабочае месца зрабіць камфортным павінен той, хто працуе, або работадаўца. Хто ў прадпрымальніка работадаўца? Ён сам. А спадзявацца на ўлады— марны лёс.

**Ніна ІГНАТОВІЧ.**

## «Рамбыттэхніка» – на дошцы гонару

**МАЛАДЗЕЧНА. За дасягненне найлепшых вынікаў у выкананні паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця арэнднае прадпрыемства "Рамбыттэхніка" занеслі на Рэспубліканскую дошку гонару.**

Прадпрыемства па выніках мінулага года заняло першае месца ў краіне ў сферы бытавых паслуг.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

■ НАШЫ ГРОШЫ

## Як звычайна

Пачалося атрыманне першых павялічаных зарплат пасля павышэння з 1 сакавіка мінімальнай заработнай платы і стаўкі 1 разраду. За сакавік сярэдняя заработная плата склала каля 107 тысяч рублёў, што пры курсе 1350 рублёў эквівалентна $80. У тым ліку, настаўнікі атрымлівалі, у сярэднім, $67, урачы – $89, занятыя ў прамысловасці – $93, банкіры – $148, а нафтавікі і газавікі – $200. А ў сярэднім – каля $80. За красавік заработкі павінны быць яшчэ большыя. Так што да $100 кожнаму да восені як-небудзь дацягнем.

У святочныя дні падаражэла практычна ўсё: мяса, рыба, гародніна і садавіна. У камерцыйных кіёсках узняліся цэны на гарбату, каву і шакалад. Пад шумок павялічылася цана на піва і гарэлку. Таму павышэнне заработнай платы было ў рэальнасці з'едзенае ростам цэнаў, перш за ўсё, на прадукты.

Парадаваў сваёй стбільнасцю курс нацыянальнай валюты. Ён падае, але вельмі павольна. За долар сёння даюць 1350–1375 рублёў. Аднак асаблівых надзей на далейшае ўмацаванне рубля захоўваць не варта, няма падстаў.

У сувязі з пасяўной, на рынак будзе выкінута безліч безнаяўных рублёў, частка якіх у вельмі кароткі час можа аказацца звычайнымі наяўнымі. А тыя, у сваю чаргу, і таксама вельмі хутка могуць захацець стаць наяўнымі зялёнымі. Таму ціск на попыт з боку залішняй рублёвай масы ўзмацніцца і кацыроўкі могуць падняцца да 1400 рублёў за долар.

Нацбанк ізноў знізіў стаўку рэфінансавання – да 68%. Гэта прывядзе да зніжэння банкамі сваіх ставак прыцягнення ўкладаў насельніцтва. Аднак трэба ўлічваць, што стаўка на гэты раз зніжаная толькі на 2%, таму можна спадзявацца, што і банкі знізяць стаўкі не вельмі моцна. Гэта дазволіць аслабіць ціск на валютны рынак і дасць магчымасць падзарабіць укладчыкам.

**Міхась АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

■ КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Рыбна-кілбасныя грахі

**МАЛАДЗЕЧНА. Спецыялісты міжраённага камітэта дзяржкантролю Мінскай вобласці сумесна са спецыялістамі Цэнтра стандартызацыі і метралогіі правялі праверкі на некаторых гандлёвых прадпрыемствах горада.**

У асноўным, увага звярталася на якасць рэалізуемых тавараў. Віды парушэнняў засталіся практычна тыя самыя, што і 10, 20 год таму.

Найбольш частае парушэнне ў маладзечанскіх магазінах – продаж харчовых тавараў з сышоўшым тэрмінам рэалізацыі. Гэтым, у прыватнасці, вызначыліся гандлёвыя пункты даччынага прадпрыемства ГАП-2, харчкамбіната, філіяла №1 ТАА «ЗБІШН», СП Фірма па абслугоўванні чыгуначнікаў на станцыі Маладзечна.

Звычайна пакупнікам прапануюць пратэрмінаваныя кілбасы. Аднaчасова раім чытачам звярнуць увагу на рыбу, якую збіраецеся купіць. У лепшым выпадку вы купіце мінтая ці скумбрыю, якіх замарожвалі ўжо не раз. Бо, прыкладам, пры праверцы унітарнага прадпрыемства «Дробны опт» там не аказалася пасведчання аб якасці свежамарожаных селядцоў. Прыватная фірма «Садас» таксама перадала ў згаданы магазін ГАП-2 рыбную прадукцыю без якіхсьці дакументаў, што пацвярджалі б якасць.

Наогул, рыба ўсё часцей становіцца прадметам падману пакупнікоў. Асабліва гэта тычыцца абодвух маладзечанскіх рынкаў. Пры праверцы некаторых прадпрымальнікаў, што гандлююць на іх, таксама ўстаноўлены парушэнні. Спектр іх самы разнастайны – ад утойвання выручкі да завышэння рознічных цэнаў на ўсё тую ж рыбу.

Па выніках праверак адміністрацыйныя і эканамічныя санкцыі ваганіся ад 30 тысяч да 1460 тысяч рублёў. Можна меркаваць, што гандляры ідуць на згаданыя парушэнні свядома. Нельга ў наш час быць настолькі некампетэнтным у сваёй справе. Адсюль вынікае, што яны напярэд ведаюць пра магчымыя грашовыя страты, – значыць, разлічваюць пакрыць іх чымсьці іншым. За кошт пакупнікоў, натуральна.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## Чакаем афіцыйных адказаў

Рэдакцыя адаслала на рэагаванне публікацыю **Мікалая Мелеца** аб праблемах рынку ("РГ" ад 13 і 20 красавіка) старшыні аблвыканкома **Мікалаю Дамашкевічу**, кіраўніку вілейскай раённай вертыкалі **Яўгену Сінілу**, старшыні Вілейскага раённага савета **Яўгену Ігнатовічу**, кіраўніку Вілейскага гандлёва-вытворчага прадпрыемства "Садружнасць" **Леаніду Нарэйку**, дырэктару рынку **Тамары Корсак**. Рэдакцыя таксама просіць службовыя асобы паведаміць аб тым, ці існуюць канкрэтныя планы вырашэння праблемы гарадскога рынку ў Вілейцы.

■ САНЭПІД ПАВЕДАМЛЯЕ

# 15 паслячарнобыльскіх год

**Даследаванні і кантроль за радыяцыйным становішчам паказваюць, што за апошнія гады назіраецца паляпшэнне становішча за кошт распаду кароткажывучых нуклідаў і праведзеных дэзактывацыйных мерапрыемстваў.**

Аднак нават сёння, амаль праз 15 год пасля аварыі, можна гаварыць толькі пра стабілізацыю становішча, прыстасаванне, адаптацыю чалавека, біясферы да незваротнага постчарнобыльскага стану. Так што не атаясамлівайце стабільнасць з нормай. Па прагнозах спецыялістаў, у будучым узровень радыяцыі будзе зніжацца марудна, паколькі ён будзе вызначацца, у асноўным, доўгажывучым цэзіем-137.

МАЛАДЗЕЧНА. Ведамасныя пасты радыяцыйнага кантролю летась правялі 37408 даследаванняў на ўтрыманне радыенуклідаў, у 48 узорах устаноўлена перавышэнне РДУ-99. Гэтыя перавышэнні вызначылі на радыелагічным пасту на калгасным рынку (40 пробаў грыбоў, ягад чарніц і дурніц).

Ніякага радыелагічнага кантролю нарыхтоўваемай раслінаводчай прадукцыі летась не праводзілі на ААТ "Маладзечнагароднінагандаль". Невядома для чаго набываліся дарагія прыборы радыелагічнага паста, па якім прызначэнні і кім выкарыстоўваюцца яны цяпер.

А вынікі даследаванняў прадукцыі да цяперашняга часу кіраўніцтва ААТ "Маладзечнагароднінагандаль" з райЦГіЭ не запатрабавала.

Нездавальняюча арганізавалі даследаванні і ў структурных падраздзяленнях сістэмы райспажыўсаюза.

У лабараторыі цэнтра гігіены і эпідэміялогіі даследавана 1550 узораў прадукцыі, у тым ліку, 790 — ад прыватных асоб, на ўтрыманне цэзію-137.

Пад пастаянным кантролем спецыялістаў цэнтра знаходзіліся аб'екты і кантрольныя населеныя пункты Хоўхлаўскага сельскага савета, прадукцыя малочнай кухні, гармалзавода.

Малако з калгасаў "Герой працы", прыватнага сектара, а таксама гародніна, бульба, капуста, моква, буракі, агуркі свежыя даследаваліся на ўтрыманне стронцыю-90 і цэзію-137 у лабараторыі абласнога цэнтра. У даследаваных узорах (30) утрыманне ўказаных радыенуклідаў не перавышала дапушчальных узроўняў РДУ-99 РБ.

Хацелася б, каб насельніцтва горада і раёна больш актыўна дастаўляла прадукцыю садоў, агародаў, а таксама сабраную ў лясах для радыелагічнага кантролю. Вынікі даследаванняў мінулага года гэта пацвярджаюць. Больш за 90 узораў грыбоў забруджаныя радыяцыяй (дадзеныя лабараторый райЦГіЭ і рынку), таксама ўстаноўлена забруджванне і ў некалькіх пробах лясных ягад.

Летась менш за ўсё даследавана ўзораў прадуктаў ад жыхароў населеных пунктаў Хоўхлаўскага сельскага савета, таму даць аб'ектыўную ацэнку радыелагічнаму становішчу ў раёне цяжка. Хаця тут неабходна звярнуць асаблівую ўвагу на стан харчавання ў арганізаваных калектывах: дзіцячым садку і СШ вёскі Хоўхлава.

**Віктар БЕЛІК,**
**загадчык аддзела радыяцыйнай гігіены МРЦГіЭ.**

# Геаэкалагічны стан горада Маладзечна і ваколіц

**Заканчэнне.**

Сельскія жыхары выкарыстоўваюць ваду пераважна з шахтавых калодзежаў. Якасць яе значна горшая, бо вада збіраецца з верхніх ваданосных слаёў і таму больш церпіць ад забруджанасці верхняга слоя глебы. Галоўнымі фактарамі забруджанасці вады калодзежаў з'яўляюцца нітраты і мікробы. Татальнага забруджвання грунтавых вод няма, аднак каля 70% калодзежаў не адпавядаюць санітарным нормам. Такая лічба ў многім звязана з сантэхнічным станам калодзежаў. Адсутнасць бетоннай адмосткі ці глінянага замка вакол агалоўка, незабетанаванасць стыкаў паміж кольцамі шахты, блізасць смеццевых або гнаявых куч — усё гэта значна пагаршае стан вады калодзежа. Палепшыць яго можна, калі забяспечыць калодзеж навесам ці дахам, непранікальным для атмасферных ападкаў, перыядычнай чысткай з адпампаваннем вады.



Гарадскія ачышчальныя збудаванні разлічаныя на 11315 тыс. $м^3$/год. Улічваючы, што за 1999 г. скідванне сцёкавых вод склаў 8562 тыс. $м^3$, то магутнасці ачышчальных збудаванняў адпавядаюць сучаснай сітуацыі ў галіне водакарыстання. Даволі небяспечнымі з гэтага пункту гледжання з'яўляюцца гальванічныя вытворчасці на асобных прадпрыемствах. Іх воды павінны ачышчацца на мясцовых збудаваннях, аднак калі на ВА "Электрамодуль" сцёкавыя воды адпавядаюць санітарным нормам, то станказавод скідвае сцёкі з перавышэннем утрымання цяжкіх металаў.

Асноўным прыёмнікам сцёкавых вод з'яўляецца р. Уша, стан якой выклікае значную занепакоенасць. На ліўнёвай каналізацыі адсутнічаюць ачышчальныя збудаванні, у выніку чаго сцёкавыя воды з тэрыторыі горада трапляюць проста ў раку. Значную колькасць забруджвання даюць і ручаі, што сцякаюць з тэрыторыі горада і пераўтвораныя ў сцёкавыя канавы, мыццё бялізны жыхарамі прыватнага сектара, прымеркаванага да суседніх з ракой тэрыторый. Як вынік, вада не адпавядае саннормам па акісляльнасці (ПДК/$БПК_5$) і мікробным стане. А каналізацыя ракі, праведзеная значна раней, яшчэ больш ускладняе экалагічны стан Ушы і прылягаючых тэрыторый.

Важнай праблемай маладзечанскай геаэкасістэмы з'яўляюцца цвёрдыя бытавыя адходы — смецце. Магутнасць палігона ЦБА, другая чарга якога была уведзеная ў эксплуатацыю ў 1998 годзе, адпавядае патрабаванням горада.

Нягледзячы на тое, што палігон знаходзіцца па-за межамі гарадской тэрыторыі, ён уваходзіць у геаэкасістэму горада як неабходная састаўная яе частка. Справаздачы па кантролі за рэжымнымі сеткамі назіральных свідравін такіх гарадоў, як Барысаў, Вілейка, Жодзіна, Салігорск, Маладзечна і іншых, смецце з тэрыторыі якіх паступае на палігоны ЦБА, моцна ўплываюць на якасць грунтавых водаў і могуць утвараць моцнае іх забруджванне. Аднак, нягледзячы на наяўнасць свідравін, з-за адсутнасці сродкаў даследаванні якасці грунтовых водаў у Маладзечне не вяліся.

Добра сябе зарэкамендаваў спосаб вывазу адходаў з тэрыторыі горада Маладзечна і іх экспартная перапрацоўка. Гэта ў значнай ступені датычыцца пілавіння драўніны, што перапрацоўваецца ў Беразінскім на торфабрыкет, адпрацаваныя шыны вывозяцца на Магілёўскі рэгенератарны завод; вывозяцца шклабой і макулатура.

Акрамя таго, частка найбольш небяспечных адходаў вытворчасці захоўваецца на тэрыторыі прадпрыемстваў, арганізацый і гаспадарак, што знаходзяцца ў межах горада. Для гэтага ўтвараюцца патрэбныя ўмовы і распрацаваныя патрэбныя тэхналогіі, таму шкода для наваколля такіх прадпрыемстваў адсутнічае.

Больш актуальнай для горада з'яўляецца праблема несанкцыянаваных звалак у межах горада. Асабліва гэта датычыцца прыватнага сектара. Смецце не толькі псуе выгляд горада, але і значна пагаршае санітарны стан навакольнай тэрыторыі, што можа негатыўна адбівацца на здароўі жыхароў.

У выніку можна зрабіць вывад аб даволі стабільным геаэкалагічным становішчы ў Маладзечне і ваколіцах, аднак гэта не сведчыць пра тое, што пытанням экалогіі можна надаваць менш увагі. Паўсюдна патрэбныя захады па павелічэнні плошчы зялёных насаджэнняў. Асабліва гэта датычыцца краявідаў пойменных тэрыторый і прыватнага сектара на азёрна-ледавіковай нізіне, якія па сваім планавым прызначэнні і геаэкалагічных асаблівасцях церпяць ад прытоку шкодных рэчываў з размешчанай на больш высокім гіпсаметрычным узроўні марэннай раўніны. Менавіта тут, у паўднёва-заходняй частцы горада, канцэнтруюцца асноўныя прамысловыя магутнасці. Патрэбныя таксама захады па ахове атмасфернага паветра і р. Уша. Гэта, а таксама ўздыманне асабістага ўзроўню экалагічнай культуры можа значна палепшыць геаэкалагічнае становішча ў Маладзечне, захаваць яго унікальнасць, а таксама стварыць больш прыдатнае для пражывання чалавека гарадское асяроддзе.

**Вадзім ЗУБРЫЦКІ,**
**студэнт 4 курса геафака БДУ, сапраўдны член Беларускага Геаграфічнага таварыства.**

# Калі і як саджаць суніцы?



Самы лепшы і аптымальны тэрмін пасадкі суніц садовых у Беларусі — вясенні. У сярэднім, гэта 3-я дэкада красавіка — 1-я і 2-я дэкады мая. Восеньскі тэрмін пасадкі ў паўночных абласцях лічыцца горшым і непажаданым. У паўднёвых абласцях і пры атыманні ранняй расады суніцы можна саджаць у канцы мая — пачатку жніўня. Пры дзяленні кустоў можна высаджваць і ў канцы верасня — пачатку кастрычніка з прымяненнем мульчыравання і плёначных укрыццяў.

Бывае, практыкуюць і летнюю пасадку расады суніц, якая захоўваецца ў спецыяльных халадзільніках. Калі ж з пасадкай проста спазніліся, а расада захоўвалася ў звычайных умовах і ўтварыла кветаносы, то перад пасадкай трэба асцярожна абламаць кветаносы, карані абмакнуць у глінянную баўтушку.

**Падрыхтоўка глебы і ўгнаенне**

Для суніц непрыгодныя ўзвышаныя адкрытыя месцы, схілы, дзе расліны вымярзаюць, а летам ім не хапае вільгаці, нізіны, дзе застойваецца вада і халоднае паветра.

Не рэкамендуецца размяшчаць суніцы пасля бульбы, тытуню, таматаў і іншых паслёнавых культур, а таксама малін, таму што ў іх з суніцамі ёсць агульныя шкоднікі.

Лепшыя папярэднікі для суніц — гарчыца, рэдзька, пятрушка, турнэпс, морква, часнок, сельдэрэй.

Не пазней чым за 7—10 дзён да пасадкі суніц глебу перакопваюць на поўны шчыток рыдлёўкі, пад перакопку ўносяць перагной ці спелы кампост у дозе 60—10кг/10 $м^2$. Свежы саломісты гной пад суніцы ўносіць нельга. Ён дрэнна перамешваецца з глебай, карані, сутыкаючыся з ім, кепска прыжываюцца. Свежы і перапрэлы гной лепш унесці пад папярэднік.

**Пасадка**

Пры наяўнасці сухой гліны і вады карані суніц перад пасадкай макаюць у гліняную баўтушку (1:1), а пры адсутнасці гліны — у чыстую ваду ці ўліваюць у лунку 0,5 л вады і саджаюць расліну ў гразь.

Пры магчымасці на ўчастку саджаюць да 5 асноўных гатункаў суніц. 20% ранніх, 15% сярэдняранніх, 30% сярэдніх, 20% сярэднепозніх і 15% позніх. Рады размяшчаюць з поўначы на поўдзень. Набытую ў гадавальніку або ўласную расаду за дзень да пасадкі старанна сартуюць, адбіраючы найбольш развітыя расліны з 2—3 лісточкамі і добрымі каранямі, якія кароцяць да 5—8 сантыметраў. Падрыхтаваную расаду багата паліваюць і прыкопваюць у зацемненым месцы не больш, як на суткі.

На супясчаных глебах суніцы саджаюць на роўнай паверхні, таму што грады на такіх глебах хутка перасыхаюць. На суглінистых глебах робяць невысокія (да 10 см) грады шырынёй 80—120 см. Для ўчасткаў з пераўвільготненай глебай або блізкім узроўнем грунтавых вод (менш за 1 м) лепш падыходзяць высокія (20—30 см) і шырокія (да 150 см) грады. Шырыня праходу паміж імі — 30—40 см.

Прымяняюць 1-радковую і стужачную (2—4-радковую) схему размяшчэння раслін. Пры аднарадковай пасадцы рады робяць на адлегласці 60—70 см, а расліны ў радзе — 20—25 см. Пры шматрадковай пасадцы адлегласць паміж радкамі пакідаюць 30—40 см, а паміж стужкамі — 60—70 см, прамежкі паміж раслінамі ў радзе 20—25 см.

Саджаць суніцы лепш за ўсё ў пахмурнае або дажджлівае надвор'е, а пры сонечным надвор'і — увечары.

Пасадку робяць па маркерных лініях або пад шнур. З аднаго боку шнура ці маркернай лініі па метках праз кожныя 20—25 см раскладваюць расаду, з другога боку ў мяккай глебе рукой або рыдлёўкай глыбінёй на паўштыка робяць лункі, у якія і апускаюць карані расады, раўнамерна распраўляючы іх, каб не загіналіся канцамі ўверх. Засыпаюць лунку, ушчыльняючы глебу ў два-тры прыёмы і не дапускаючы пустотаў каля каранёў. Расада амаль не адчувае перасадку, калі яе высаджваюць разам з комам зямлі. Пры пасадцы трэба сачыць, каб сэрцайка (аснаванне верхавіннай пупышкі) знаходзілася на адным узроўні з глебай. Пры вельмі глыбокай пасадцы расліны выміраюць, а пры дробнай — высыхаюць або вымярзаюць.

**Пасля пасадкі**

Пасля пасадкі, калі лунку не запаўнялі вадой, расліну паліваюць з разліку 1 вядро вады на 10—15 раслін. Пасля паліву расліны і глебу апраўляюць, пры магчымасці мульчыруюць перапрэлым чыстым торфам або перагноем слоем 2—3 см.

На працягу 5—7 дзён пасля пасадкі, калі стаіць сонечнае надвор'е, расліны прыцяняюць, часцей паліваюць ці апырскваюць вадой. Праз 8—10 дзён пасля пасадкі насаджэнні абследуюць і на месца тых, што загінулі, высаджваюць новыя.

Каб у першы год рацыянальна выкарыстоўваць глебу, занятую суніцамі аднарадковымі з міжраддзямі 60—70 см, у цэнтры міжраддзяў мэтазгодна высяваць або высаджваць адзін радок цыбулі ці часнаку, моркву, радыс, салату, рэпу.

**Альбін МАКАРЭВІЧ, аграном.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

# Разбежка ад першага месца да чацвертага

**21.04 Металург-JP – Гарняк (Салігорск) 7:2 (3:1)**

**Галы:** Агейчык (2), Янель (10, 12), Кузняцоў (22), Шаўчэнка (24, 25), аўтагол (33); (18), (29).

**Склад:** Бахур; Агейчык, Кузняцоў, Сіткевіч, Янель; Гарнастаеў, Гружэўскі, Казяк, Шаўчэнка; Бароўскі, Раманаў, Кіркіж.

ЦКК – Дарожнік 6:9, МЭСР – Сімург 5:10, Энергетык – МАПІД 5:1, Віцязь – РТІ 8:8, БДПА – Верас 1:3, Белаўтасервіс – Хемікс 8:5. Сімург – Гарняк 8:2.

**Бамбардзіры:** Дзядзюля (Дарожнік) – 55; Лагутка (Белаўтасервіс) – 50; Янель – 35.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

Не змаглі ўдзельнічаць у матчы **Складаноўскі** (дыскваліфікацыя), **Снятко** (траўма калена – відаць, адновіцца да апошняга тура), **Максімаў** (пашкодзіў спіну – невядомая яшчэ складанасць траўмы).

Прыгожыя галы забілі **Агейчык** (абыграў двух абаронцаў і галкіпера) і **Шаўчэнка** (на паўзе перакінуў-падрэзаў мяч над варатаром).

| | |
|---|---|
| 1. Сімург | 59 |
| 2. Белаўтасервіс | 59 |
| **3. Металург-JP** | **58** |
| 4. Дарожнік | 56 |
| 5. Хемікс | 53 |
| 6. Верас | 44 |
| 7. ЦКК | 35 |
| 8. МАПІД | 34 |
| 9. Энергетык | 29 |
| 10. МЭСР | 20 |
| 11. Гарняк | 19 |
| 12. БДПА | 13 |
| 13. РТІ | 11 |
| 14. Віцязь | 10 |


Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.
**Андрэй Шаўчэнка (справа) за галаву схапіўся: Я ж абаронца, а два галы «Гарняку» забіў. Злева - Валянцін Гружэўскі.**

■ ФУТБОЛ

# Амаль усё пра ФК «Маладзечна»

У назву ФК "Маладзечна-2000" дадаліся лічбы, якія сімвалізуюць узнаўленне моцнай каманды ў горадзе якраз на стыку тысячагоддзяў. У будучым мяркуецца стаць закрытым акцыянерным таварыствам, у якое маглі б укладваць грошы спонсары.

**Людас Румбуціс** расказаў, што, па стане на 18 красавіка, клубу выдзелілі 6,6 мільёна рублёў. Гэта сума, якая меркавалася прыблізна на месяц, хаця ўжо прайшло тры. Для прыкладу, па нормах Міністэрства спорту і турызму толькі для медыкаментознага забеспячэння на месяц патрэбна 1,3 мільёна.

Ёсць у "РГ" інфармацыя аб тэрмінах, на якія заключылі кантракты футбалісты. Да 31 снежня будуць звязаныя з "Маладзечна-2000" **Асадоўскі**, **Багайчук** і **Турчыновіч**, да 31.12.2003 – **Лявончык** і **Бегаідзе** (трансфер апошняга, праўда, пакуль не атрыманы з Грузіі), усе астатнія гульцы заключылі свае дамовы да 31.12.2002.

Сумы зарплаты і прэміяльных застаюцца ў сакрэце. Прэміяльныя плацяць і за нічые, і за перамогі (суадносіны 1:3).

Па меркаванні Румбуціса, у гульні з мазыранамі не хапіла тых самых двух тыдняў падрыхтоўкі на грунце, пра што ён казаў раней. Былі і яго трэнерскія памылкі, што тычацца складу каманды. У матчы ж з салігорцамі футбалісты праявілі належны характар, калі выстаялі ў меншасці.

Гэтыя сустрэчы вельмі дапамаглі адчуць сябе ў сістэме каардынатаў вышэйшай лігі. Цяпер у паўзе, выкліканай чвэрцьфіналам Кубка і таварыскімі матчамі зборных, маладзечанцы не спыняюць трэніроўкі, а ў суботу правялі двухбаковую гульню.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ПА-ЗА ФУТБОЛЬНЫМ ПОЛЕМ

# Балельшчыкі – стадыён – клуб

**Дамашнія матчы ФК "Маладзечна-2000" высветлілі некалькі праблем ва ўзаемаадносінах клуба і балельшчыкаў, якія прыходзяць на стадыён. У прыватнасці, прыхільнікі футбола выказваліся, што занадта дарагі кошт білетаў (1000 рублёў), нестае дзіцячых білетаў, якія каштуюць 500 рублёў.**

У сувязі з гэтым адміністрацыя клуба просіць маладзечанцаў зразумець, што ім прапануецца неблагое відовішча, для арганізацыі якога патрэбныя значныя матэрыяльныя сродкі. Гэтыя сродкі ідуць на рэканструкцыю стадыёна, на падтрымку належнага стану футбольнага поля, ёсць адлічэнні і ў небагаты бюджэт клуба.

Набывайце абанементы (кошт 7800 і 9000 рублёў) – будзе ў два разы танней, чым купляць білеты кожны раз. Клапаціцеся пра дзіцячыя білеты наперад.

Ёсць праблемы з дзецьмі, што прыходзяць на футбол без нагляду бацькоў. Хлапчукі імкнуцца трапіць на стадыён бясплатна ўсялякімі хітрыкамі, чым ствараюць лішнія клопаты кантралёрам.

Гульцы каманды выказваюць падзяку балельшчыкам за падтрымку на апошніх хвілінах гульні з "Шахцёрам". Яна дапамагла камандзе выстаяць у меншасці супраць дасведчанага праціўніка.

Прыхільнікаў футбола запрашаю на наступны дамашні матч супраць ФК "Гомель". Нядзеля, 6 мая, пачатак – 17.00.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ДРУГАЯ ЛІГА

# 1 тур: ізноў Чысць і Смаргонь

Заявіліся 19 каманд, якія на гэты раз згуляюць усе разам без падзелу на групы. З добра вядомых сапернікаў для прадстаўнікоў нашага рэгіёна "Смаргоні" і "Забудовы" будуць мінскія РВАР, "Дынама-2" (Мінск), "Верас" (Нясвіж), "Старыя Дарогі".

З "Баранавічамі" і "Вертыкаллю" (Калінкавічы) смаргонцы сустракаліся летась у фінальнай пульцы. Былая "Змена-БАТЭ" стала простай "Зменай", а "Акадэм-Славія", якая пайшла на павышэнне, перайменавалася ў СКАФ і з-за нястачы фінансавання заявілася зноў у другую лігу. Мінскі "Трактар", "Вейна" (Магілёўскі раён) і "Палессе" (Мазырскі раён) мы добры памятаем, як леташніх аўтсайдэраў першай лігі. З'явіліся новыя каманды ў сталіцы: "Працоўныя рэзервы – РІПА", "Сквіч", "Энергія". "Пінск-900" і "Гомель-2" некалькі сезонаў запар былі ў паўднёвай групе, шклоўскі ж "Днепр" выступаў там нерэгулярна.

Каляндар стартавых тураў паўтарае мінулагоднее дэрбі: у першым туры (28 красавіка) смаргонцы прыедуць у Чысць. Гаспадары гэтага матча 6 мая рушаць ў Гомель. Смаргонцы ж другі тур прапускаюць, а ў трэцім адкрываюць дома (12 альбо 13 мая) сезон матчам з гамяльчанамі.

**"Смаргонь".** Прэзідэнт клуба Міхаіл Чуковіч (1950), галоўны трэнер Андрэй Майсейчанка (1968), начальнік каманды Сяргей Новік (1955), трэнер Сяргей Недавес (1964), урач Генадзь Тамашоў (1964), адміністратар Андрэй Юркевіч (1972). Варатары: Генадзь Шэлест (1974; асіповіцкі "Свіслач-Дах", Д2), Уладзімір Кліменка (1980, "Палессе" Мазырскага раёна, Д3). Абаронцы: Сяргей Якубіцкі (1972; 56, 6), Андрэй Селіванаў (1975; 29, 12), Дзмітрый Іваноў (1975; 17, 1), Дзмітрый Шагойка (1978; 47, 1), Валерый Курак (1980; 23). Паўабаронцы: Дзмітрый Дзігілевіч (1975; 41, 9), Алег Чарнуха (1975; 15, 3), Юрый Русаковіч (1975; мінскі "Трактар", Д3), Віталь Шыманоўскі (1975; смаргонская СКЗ-ДЮСШ-1), Аляксей Шпілеўскі (1979; 21, 1; мінскі СКАФ, Д3), Сяргей Карабінскі (1980; 69, 3), Уладзіслаў Дукса (1980; 65, 3), Вадзім Максіменка (1980; 16). Нападаючыя: Уладзіслаў Каўрыга (1972; 20, 4; віцебскі "Лакаматыў-96"), Віталь Відук (1973; 68, 17), Вячаслаў Шпакоўскі (1974; 17, 3), Андрэй Шаблінскі (1980; 16, 4), Сяргей Кадол (1981; мінскі СКАФ, Д3).

**"Забудова".** Прэзідэнт клуба Леанід Заяц (1958), галоўны трэнер Руслан Лукін (1971), начальнік каманды Мікалай Мятліцкі (1960), урач Яўген Кузняцоў (1960), адміністратар Уладзімір Вілюга (1966). Варатары: Андрэй Канапелька (1971; "Смаргонь", Д3), Павел Мядзведзеў (1980; мінскі СКАФ, Д3). Абаронцы: Мікалай Мятліцкі (1960; 53, 2), Алег Канапелька (1971; "Смаргонь", Д3), Віталь Чумак (1973; светлагорскі "Хімік", Д2), Дзяніс Яцына (1980; мінскі РВАР, Д3), Віктар Булаты (1980; гродзенская ДЮСШ), Дзяніс Мятліцкі (1982; 35/1, 1/-1). Паўабаронцы: Аляксандр Садчанка (1973; 23. 1), Сяргей Рыгаровіч (1975; 45, 5), Віталь Дзіковіч (1976; СКАФ, Д3), Сяргей Балыкін (1976; светлагорскі "Хімік", Д2; 10, 1), Андрэй Казлоўскі (1978; наваполацкі "Нафтан-Дэвон", Д1), Павел Кароль (1978; мінскі РВАР, Д3), Мікалай Татун (1980; 42, 5). Нападаючыя: Руслан Лукін (1971; "Маладзечна", Д1; 4, 1), Віталь Мацюк (1977; мастоўскі "Нёман", Д2), Віктар Урублеўскі (1978; "Тарпеда-Кадзіна", Д2), Вадзім Ракса (1978; гродзенская ДЮСШ), Андрэй Міpановіч (1980; "Маладзечна", Д1; 2, 0).

*Для гульцоў у дужках пасля году нараджэння пазначаная колькасць згуляных матчаў і забітых галоў у тры апошнія сезоны ў складзе сваёй цяперашняй каманды альбо дадзеная назва каманды, з якой прыйшлі.*

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Табло

■ ФУТБОЛ

**Чвэрцьфіналы Кубка Беларусі. Першыя матчы.**

Шахцёр – Дынама (М) 1:3, Гомель – Белшына 2:2, Ведрыч-97 – Тарпеда-Кадзіна (Д2) 2:0, Славія – БАТЭ 0:2.

■ МІЖСЕЗОННЕ

21.04 Забудова – Маладзечна-2000 (дубль) 3:1 (2:0)

Галы: Мацюк (15), Дзіковіч (35), Паўлавец (82); Альховік (75).

У чысцінцаў адбылася змена на трэнерскім мосціку. Галоўным трэнерам стаў **Руслан Лукін**, а **Юрый Чэкан** ужо не працуе з камандай. Прыйшлі ў склад вядомы па "Нафтану-Дэвону" **Андрэй Казлоўскі, Сяргей Балыкін,** якія гулялі летась за "Забудову", разам з ім са светлагорскага "Хіміка" далучыўся **Віталь Чумак**. Вярнуўся ў Слонім варатар чысцінцаў **Бекіш**.

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

МАЛАДЗЕЧНА. У сакавіку ў Бельгію на чэмпіянат свету (выступалі сярод юніёраў) ездзілі красмены **Павел Соніч** (8 км) і **Алена Куцкевіч** (4 км). Яны былі там маладзейшыя за астатніх удзельнікаў, таму можна казаць, што вынікі не столькі высокія, колькі абнадзейваюць.

На спаборніцтвах спартсменаў Міншчыны перамаглі Соніч (2 км, узрост 16-17 год), **Дзмітрый Паслед** (4 км, 18-19 год), **Галіна Кавалёва** (4 км, дарослыя).

На чэмпіянаце краіны Паслед у сваім узросце быў другі на 4 км, а **Руслан Садоўскі** (20-22 гады) – трэці.

■ ДЗЮДО

МІНСК. У рэспубліканскія спаборніцтвах па дзюдо сярод юнакоў 1983-84 гадоў нараджэння ўдзельнічалі пяцёра выхаванцаў **Вячаслава Дзеравянкі** з Маладзечна. Лепшы быў **Антон Заянчкоўскі**, які заняў 2 месца ў вазе да 100 кілаграмаў.

■ КОННЫ СПОРТ

РАТАМКА. На чэмпіянаце Беларусі па пераадоленні перашкодаў у закрытым памяшканні выхаванцы палачанскай спартшколы браты **Пятровы** занялі прызавыя месцы.

**Сяргей** быў другі у "Цяжкім класе-В" і "Цяжкім класе-Б" на Баварыі-95 (коні 6 год і старэйшыя). **Віктар** таксама двойчы другі у "Цяжкім класе-Б" і "Вышэйшым класе-В" на Вікторыі-89 (коні 7 год і старэйшыя).

■ АМАТАРАМ СТАТЫСТЫКІ

У матчы "Маладзечна-2000" – "Шахцёр" у складзе нашай каманды пад 7-м нумарам гуляў **Бычкоўскі**. **Багайчук** замяніў Сідарэнку. Макрыцкі дзейнічаў на пазіцыі цэнтрфорварда.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ МІНІ-ФУТБОЛ

СМАРГОНЬ. Мясцовы спорткамітэт правёў турнір сярод ветэранаў. Перамаглі маладзечанцы, якія паслядоўна абыгралі каманды Гродна (2:0), Смаргоні (6:2), Астраўца (11:0), Іванца (3:0) і згулялі ўнічыю з Вілейкай (2:2).

7 галоў забіў **Сяргей Рысік**, 6 – **Уладзімір Галубко**. Акрамя іх, у складзе пераможцаў гулялі браты **Генадзь** і **Аляксандр Тальkоўскія**, **Аляксандр Чарняўскі**, **Аляксандр Лепеш**, **Вадзім Рыдванскі**.

Другое месца занялі гродзенцы, трэцяе – віляйчане. Прыз лепшаму гульцу атрымаў Уладзімір Галубко. Удзельнікі адзначылі добрую арганізацыю турніру.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

■ ВЕСЛАВАННЕ НА БАЙДАРКАХ І КАНОЭ

МЯДЗЕЛ. На рэспубліканскіх спаборніцтвах у Пінску выхаванка мядзельскай ДЮСШ **Кацярына Місуна** была трэцяй на дыстанцыі 1000 метраў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ МАРАФОН

МЯДЗЕЛ. У Асіповічах прайшоў традыцыйны міждзяржаўны марафон. **Андрэй Паспелаў** з Мядзела заняў другое месца ва ўзроставай групе 30–39 год.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## На гэтым тыдні гуляюць

**27.04 Матч дублёраў мінскага "Дынама" і "Маладзечна-2000"**

**28.04. Мінск, стадыён "Дынама", 19-00. "Дынама" (Мінск) – "Маладзечна-2000"**

+1=6-9 15-30. Апошні матч 27.08.99 на выездзе 0:2.

**29.04. Мінск, спарткомплекс БДПА, 14-00. Дарожнік (Фаніпаль) – Металург-JP**

+2=1-0 10-5. У першым крузе 5:1 (Гарнастаеў, Кузняцоў, Максімаў, Сіткевіч, Снятко) дома.

**28.04. Стадыён Чысцінскай СШ. 17-00. Забудова – Смаргонь**

4 разы выйгравалі смаргонцы і двойчы былі нічые, розніца мячоў на карысць гасцей 10-5. Летась ФК "Смаргонь" перамагла на выездзе 1:0 і дома 2:1.

**01.05. Маладзечанскі раён. Традыцыйны лёгкаатлетычны прабег памяці экіпажаў Гастэлы і Маслава.**

У праграме дыстанцыі на 5 км (для юнакоў і дзяўчат да 17 гадоў і ветэранаў), 20 км і марафон (чацверты адкрыты чэмпіянат Мінскай вобласці). Рэгістрацыя ўдзельнікаў з 9-00 да 10-30 на Цэнтральнай плошчы. Старт ля вёскі Крыніца (бегуноў туды адвязуць), фініш на стадыёне Чысцінскай СШ.

# ВІНШАВАНКІ

Дарагія **Алена Хуртай** і **Віталь Шырко**!
Віншуем вас з уступленнем у шлюб! Няхай кожны ваш дзень будзе светлы, прыгожы і радасны! Здароўя вам! Жадаем жыць у згодзе, каханні і шчасці!
С днем свадьбы вас поздравить рады,
Здоровья, счастья пожелать.
Умейте бури и невзгоды
Всегда вдвоем переживать.
Идя семейною дорогой,
Сумейте вместе жизнь прожить.
Ведь в жизни нужно так немного –
Любимой и любимым быть.
*Цёця Валя, Каця, Віталь.*

Віншуем
любімую дачушку і сястрычку
**Алену Хуртай** і **Віталя Шырко**
з важнай падзеяй у іх жыцці –
днём шлюбу!
Желаем счастья в этот день,
Тепла от всех, кто будет рядом.
Улыбок светлых на лице
И солнечных лучей в награду.
*Мама, сям'я Квасавых.*

Віншуем **Насцю Санько**!
Дачушка, віншуем цябе з днём нараджэння! Жадаем шчасця, здароўя, поспехаў ва ўсім!
Пожелать тебе хочется много,
Чтобы счастье свое ты нашла,
Чтобы была пряма та дорога,
По которой ты в жизни пошла.
*Твае мама і тата.*

**Валянціне Паўлаўне** і **Альберту Прохаравічу Зайцавым**. Віншуем з 40-годдзем сумеснага жыцця! Шчасця, здароўя, кахання. *Света і яе сям'я.*

Віншуем з юбілеем **Міхаіла Куліцкага**! Шчасця, здароўя, кахання. *Сям'я Якубоўскіх.*

Віншуем **Валерыя Сцяпанавіча** і **Любоў Віктараўну Цыбульскіх** з сярэбраным вяселлем! Жадаем усяго найлепшага. *Дзеці, унук.*

Віншуем **Сяргея Такушэвіча** і **Наталлю Жураўлёву** з уступленнем у шлюб! Жадаем шчасця і кахання. *Куліцкія.*

Віншуем з 25-годдзем **Міхаіла Віктаравіча Куліцкага**! Жадаем здароўя, даўгалецця, бадзёрасці і ўсяго найлепшага. *Жонка, сын.*

Віншую **Галю Сялюн** з Вілейкі з 15-годдзем! Жадаю шчасця, здароўя, кахання. *Твая сяброўка Надзея Саўчыц.*

Віншуем з днём нараджэння дарагога татачку і мужа **Леаніда Сегіна**! Жадаем здароўя, удачы, поспехаў. *Юля, Оля і жонка Святлана.*

Віншуем **Вольгу Бурак**! Жадаем табе шчасця, здароўя і кахання. *Сям'я Баршчоў.*

**Зрык Віктаравіч Боршч**, жадаю табе шчасця і здароўя, дабрабыту! Я цябе кахаю! *Жонка Іна.*

Віншуем з днём нараджэння **Валодзю Матошку**! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці, удачы. *Цесць, яго сям'я.*

Віншуем з днём нараджэння **Уладзіміра Матошку**! Вельмі цябе любім. Жадаем здароўя, шчасця, поспехаў. *Таня, Эля.*

З 25-годдзем віншуем **Алену Юр'еўну Ціхановіч**! Жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці, удачы. *Саша і Юля.*

Віншуем з юбілеем **Зою Дзмітрыеўну Гіль**! Сегодня день рожденья твой, дай Бог тебе здоровья. А в доме пусть ютится лишь покой, согретый счастьем, радостью, любовью. *Твае родныя.*

## Звярніце ўвагу

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

## Купон 17

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

Тэкст

Рэгіянальная газета

Прозвішча, імя, адрас (не для друку)

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно

Цёплае надвор'е і доўгія выхадныя не спрыяюць прагледжванню кінафільмаў. Прынамсі, колькасць жадаючых зарабіць бясплатныя білеты змяншаецца. А колькасць, адпаведна, не перарастае ў якасць: правільных варыянтаў не было зноў.

Адказ на мінулае пытанне быў вельмі лаканічны: нічога. Фальшываманетчыкі летась яшчэ нічога не прыдумалі для замены інфрачырвоных метамерных фарбаў. Мо, цяпер што вынайшлі?

**НАСТУПНАЕ ЗАДАННЕ.** Для правільнага адказу на яго проста неабходна мець некаторае пачуццё гумару. Паразважайце над заданнем. Гарантую сапраўднае задавальненне ў выпадку знаходжання ісціны. Такім чынам, чытайце ўважліва.

На думку многіх даследчыкаў, на самым пачатку жыцця чалавека ГЭТА эндагеннае. Г. зн., не абумоўленае знешнімі прычынамі. Праз тыдні тры-чатыры ГЭТА становіцца экзагеннае. Г. зн., абумоўленае знешнім уздзеяннем, сацыяльна. Што ж ГЭТА, калі, згодна з вядомай, але ненавуковай крыніцай, стымулюе гульню насякомага на музычным інструменце?

Пераможцу чакае запрашальны білет на 2 асобы на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры «Радзіма». Адказы прымаюцца па тэлефоне 69667 па сераду (2 траўня) уключна або пісьмова (паштовы штэмпель не пазней за 29 красавіка).

**Лявон ІНЕТНЫ.**

■ КОНКУРС

## Мат у адзін ход

У "Шахматнай навеле" С. Цвейга незвычайны, амаль фантастычны сюжэт. Акіянскі параход робіць чарговы рэйс з Нью-Ёрка ў Буэнас-Айрэс. Там выпадкова сустракаюцца за шахматнай дошкай чэмпіён свету і нікому не вядомы аматар. Апошні з лёгкасцю выйграе ў грасмайстра.

Філіграннасці і дакладнаму разліку ён навучыўся, седзячы ў турэмнай камеры-адзіночцы. Падчас зняволення ён разбіраў і аналізаваў шахматныя партыі мацнейшых майстроў, змешчаныя ў дапаможніку па гэтай гульні. Кнігу вязень з вялікай перасцярогай выкраў з кішэні шыняля ахоўніка. Спадзяванне было, што гэта можа быць зборнік Гётэ ці Гамера. Калі даведаўся, чым яна з'яўляецца на самой справе, у роспачы хацеў знішчыць яе. Аднак боязь звар'яцець ад безвыходнасці і бяздзейнасці спыніла яго, і дапаможнік стаў на пэўны тэрмін адзіным заняткам. Фігуры атрымаліся з хлебнага мякіша, а дошку замяніла складзеная ў пэўным парадку клятчастая коўдра.

А вось другая, не менш цікавая, але малавядомая гісторыя. Яна адбылася на караблі незабыўнага капітана Урунгеля. Адзін з яго пасажыраў, гросмайстар N, спяшаўся ў Бразілію для ўдзелу ў міжнародным шахматным турніры, што меўся там адбыцца. Надвор'е было цудоўнае, і большасць людзей знаходзіліся на палубе. Урунгель, як заўсёды, быў у сваім амплуа. Хаця ў шахматах ён ведаў толькі назвы фігур ды яшчэ як палова з іх ходзіць, тым не менш, прапанаваў маэстра згуляць лёгкую партыю. Той бачыў, што перад ім навічок, таму прапанаваў фору ў выглядзе слана, каня і пешкі.

– Так гуляць не па-джэнтльменску, – абурыўся капітан "Бяды". – Калі даеш фору, атрымліваеш перавагу.

– Як гэта так? – здзівіўся гросмайстар.

– А вось так! – адказаў Урунгель. – Я вам таксама даю фору ў выглядзе 6 фігур і 8 пешак і аб'яўляю мат у адзін ход.

Прасачыце, як гэта магчыма. Той, хто першы дашле правільны адказ, атрымае ў якасці прыза шашачную кнігу.

**Анатоль РОГАЧ.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ



## Запяканка з рыбы

**1,5 кг рыбы, 2 цыбуліны, 2–3 сушаныя грыбы, 2 карані пятрушкі, 100 г маянэзу, 100 г сала, часнок, соль.**

Пачышчаную рыбу нарэзаць на порцыі, пасыпаць соллю з тоўчаным часнаком. Пачышчаную гародніну надзерці на буйной тарцы, пасаліць, заліць кіпнем, пакласці намочаныя грыбы і тушыць 10–15 хвілін. Дно ў посудзе абкласці тонкімі скрылькамі сала, раскласці порцыі рыбы, паліць маянэзам, зверху – сала, гародніна з нарэзанымі грыбамі. Уліць адвар, накрыць. Запякаць у духоўцы 30–40 хвілін. Падаць са смажанай бульбай.

## Тварожныя шарыкі вараныя

**600 г тварагу, 3 яйкі, 60 г пшанічнай мукі, 20 г бульбянога крухмалу, 40 г смятаны, цукар і соль.**

Тварог размяшаць з яйкамі, смятанай, пшанічнай мукой і крухмалам. З атрыманай масы сфармаваць круглыя шарыкі, пакласці ў падсоленую ваду, якая кіпіць, і варыць, пакуль шарыкі не ўсплывуць. Гатовыя шарыкі адкінуць на сіта, пакласці на блюда і паліць распушчаным маслам. Падаць са смятанай.

■ НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ

## У тэатры бывае, бы ў цырку

Цётка, якая ў свой час расказвала гэтую гісторыю, сцвярджае, што яна рэальная. Справа была неўзабаве пасля вайны ў Ташкенце.

У тамтэйшым тэатры, дзе ставілі спектакль па навеле Праспера Мерыме «Таманга». У ёй расказваецца, як рабы-негры на чале з адважным Тамангай захапілі карабель рабаўладальніка (на якім іх і везлі). Нявольнікі падпілавалі напілкам свае ланцугі, затым па сігнале скінулі іх і знішчылі ўсіх белых. Надалей таксама былі цікавыя прыгоды, але да нашага аповяду яны не маюць аніякага дачынення.

А пры пастаноўцы спектакля рэжысёру закарцела, каб на сцэне быў жывы папугай. Прычым, каб той умеў гаварыць. Папугая недзе адшукалі, але спробы прымусіць яго нешта гаварыць праваліліся. Ён маўчаў, як, напэўна, той адважны Таманга. Пасля катавання гаротнай птушкі і некаторага акцёрска-рэжысёрскага садамазахізму ў тэатры вырашылі пакінуць папугая «без прамоваў». Падрыхтоўка да спектакля ішла звычайным ходам.

І вось надышоў дзень і час прэм'еры.

Відовішча было ў разгары. Набліжаўся драматычны, кульмінацыйны момант вызвалення рабоў. Хваляванні ў зале дасягнулі апагею. Здавалася, ніхто нават не дыхае – такая цішыня панавала. І вось адважны Таманга падае сігнал. Пасля гэтага ён імгненна скідае свае ланцугі, якія СА ЗВОНАМ падаюць на сцэну. Папугай, які да гэтага быў звычайнай дэкарацыяй – мірна драмаў на заднім плане, раптоўна прачынаецца і з характэрным акцэнтам гучна выдае:

– Цётку Сару да тэлефона!

Пасля гэтага ў тэатры вымушаныя былі апусціць заслону.

**Сямён РАБІНОВІЧ.**

■ ПРОСТА АНЕКДОТ

– Былі камуністы – былі танныя кілбасы. Прыйшлі дэмакраты – зніклі танныя кілбасы. Але вернуцца камуністы – ізноў будуць танныя кілбасы!!

– Я не зразумеў. Яны што – іх туды-сюды з сабою носяць!?



